# ДУБРОЎСКІ Н А С Т Р О Й №85

ВЕРАСЕНЬ 2005

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

«**НА ЯБЕНУЮ МАЦЯРУ НАМ ТАЯ РАСІЯ**» *Аўтэнтычнае выказванне некалькіх дуброўскіх жанчын.*

## БЛАКІТНАЯ МАРА КРЫВАВАЙ ПАШЧЫ.

У каханні двух родных рэжымаў- лукашысцкага і пуцінскага- новы прыступ дыстантнага пецінгу.I Пуцін і Лука, як два пеўні, скачуць адзін ля аднаго, мяркуючы, як латвей дзяўбануць.

Адзін хоча прырасьці Беларусяй, другі-Расеяй. Абодва -небясьпечныя авантурысты.

От ізноў выцягнулі на сьвет «олвіз» пад назовам «канстытуцыйны акт» наконт стварэння адзінай суперімпэрыі.

Звычайнаму беларускаму жыхару збольшага знаёма змрочная расейская рэальнасьць.

Але варта прыгледзецца пільней, з чым жа нас хочуць паяднаць.

Расея- бедная краіна.

У Расеі карумпаваная, то бок, прадажная ўлада, якая значна зраслася з крыміналам і бандытамі.

У Расеі гіганцкі разрыў між беднасьцю і багаццем. З пашчы расейскага імперыялізму цячэ кроў чачэнаў.

**Расея знаходзіцца практычна ў стане вайны на ўсім Каўказе.**

Расейская кагэбізаваня ўлада фактычна ідзе тым жа шляхам захопу абсалютнай непадкантрольнай народу улады як і Лука. Расійскія народы самі пакутуюць ад сваіх маскоўскіх посткамуністычных- а мо неакамуністычных?- валадароў.

Маскоўскі імперыялізм хоча прапанаваць нам на «рэферэндуме» выказацца за ліквідацыю нашай дзяржавы.

Хай сьпярша Расея вытра сваю крывавую пашчу, а потым, па рэцэпту дуброўскіх баб ідзе «к ябенай мацяры».

**ХАЎРУС З ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ РАСЕЯЙ? «НЕТ, СПАСІБА». ХОЧАМ ГРОШАЙ І СПАКОЮ. АД ЯЕ.**

## 160.000.000. «НА ГАЗ».

Выць і скуголіць пра ўмяшанне замежжа ў беларускія справы і пра меркаванае выдзялення беларускім грамадзкім арганізацыям 5 мільёнаў даляраў беларускі рэжым умее.

Між тым сам ён атрымлівае ад сваіх хаўрусьнікаў і фундатараў з-за ўсходняй мяжы значна болей.

Надоечы расейскі ўрад пад выглядам «кампенсацыі» за падвышку газу даў беларускаму анцібальскаму рэжыму цэлых 160.000.000 даляраў.

З якой то б ласкі такая шчодрасьць?

На носе выбары.Беларускі халуйскі рэжым мае патрэбу ў грашах- се ля ві. Вось пад выглядам эканамічнай субсідыі маскалі-імперыялісты сунулі беларускім падбрэхувачам пайку на выбары.

З другога ж боку выглядае, што без заніжанай цаны на расейскае паліва эканамічныя посьпехі рэжыму - міраж.

Як што Лука зробіць не па маскоўскім нораве, то ў любы марозны момант маскалі за неаплату паліва адключаць газ- такое ўжэ было!- і прымерзьне рэжым голай сракай да ўнітазу.

Таму небясьпечна мець ад Расеі халяву ўзамен на славянскія пацалункі і «інтэграцыі».Трэба нармальна плаціць за нармальны тавар. І тут Лука -найгоршы прэзідэнт.

**АДЛІПНЕМ АД РАСЕІ І ПРЫТУЛІМСЯ ДА РОДНАЙ САВЕЦКАСАЮЗНАЙ ЕЎРОПЫ!**

## АДКРЫЎСЯ НАВУЧАЛЬНЫ СЕЗОН.

У Дуброўскай школі пачаўся навучальны сезон. Дэмаграфічны спад дае свае вынікі: сёлета ў школе толькі 92 вучні мо зь якіх 50 сем”яў. Небагата. Як мяркуюць, праз гады чатыры дзяцей будзе ў паўтары разы меней.

Сёлета сьпевам дзяцей будзе вучыць маладзічка, якая ведае нотную грамату і ўмее граць на гармоні.Бог ёй у помач!

Цяперака расейскую папсу ў тутэйшай школі засьпяваюць пад духавую гармонную музыку.

Адначасна між бацькоў цыркулююць чуткі пра нелады з харчаваннем дзяцей у школі. Кажуць, што частка сродкаў была выкарыстаная кухаркаю не па прызначэнні.

Што ж, капайце. Мо да чаго і дакапаецеся.Але хутней за ўсё справа заглухне на чутках.

З новага навучальнага году ў школі стала новая дырэктарка. Гэта гадаванка гэтай жа школы спадарыня Кур”ян/Стукач Тацяна, якая сёлета скончыла Мазырскую настаўніцкую вучэльню.

Ранейшы дырэктар спадар Мікалай Краўчанка сышоў з пасады з-за стану здароўя.

## НОВАЯ КРАМА Ў ДУБРОВІ.

Нарэшце дуброўская крама перабралася ў новы будынак. Гэта капітальна адрамантаванае памяшканне былой калгаснай сталоўкі. Памяшканне, канешне, цеснаватае, але ўсё ж лепшае за ранейшае.

Ранейшы мураваны будынак мае болей за 50 год, ніводнага разу капітальна не рамантаваўся дах быў цяклівы, сьцены пацьвілі, а столь пачала абрынацца.

На адкрыцці крамы была, як кажуць, прамоцыя: мужыкам давалі халяўнае піва, а дзятве - шакаладкі. Не абыйшлося без ахвотных паласавацца на халяву двойчы.

У новым памяшканні ў краме значна паболеў асартымент тавараў і падаўжэў час працы-ажно да 22 гадзін вечара.

Гаруюць у краме тры маладзіцы. Гаруюць яны ад раніцы да цямна, але ахвіцыйна па сем гадзін кождая. Таксама дабраўпарадкавана тэрыторыя ля лаўкі.

Вялікая калода і некалькі меньшых вакол яе перад лаўкаю даюць магчымасьць ахвотным сесьці і выпіць чарнілавага пойла ці чаго яшчэ і тут жа дадаць. Гэта зручна.Дробязь, а прыемна.

Пад час дабраўпарадкаванне тэрыторыі быў невялічкі інцыдэнт: калі калгасны трахтарыст Міша Тарасаў, на просьбу дзевак, перасоўваў клумбу пад кветкі, пад”ехаў дырэктар філіялу ААА ООО РУП-ПУП «Гомельдрэўэнерга» Дубрава Віягра» і прапанаваў, каб дзеўкізаплацілі,выпісаўшы трахтар.

Пэўне, з пераезным небутам у краме былі праблемы з завышанымі цэнамі на шэраг папулярных шырспажывецкіх тавараў. Але пасьля некатарага моманту існцыны цэны адскочылі??

Калі ў нас будзе аграмястэчка, у нас будзе лепшая крама.

## ЗАКАРЭЛІ І ЗАКАРАНЕЛІ.

Надоечы зацяты змагар за грамадзкую лазьню ў Дуброві сп. Мікола -а разам зь ім і дуброўская грамада- атрымаў чарговую адпіску шацілкаўскіх старчаковых. З гэным шэдэўрам цынізму і крывадушша мог пазнаёміцца кажын ахвотны, бо ксеракопія ліста вісела на дрэве ля лаўкі, на дошцы абвестак ля будынку старой лаўкі, ля пошты.

З адказу на скаргу вынікае, што грошай на лазьню німа, што трэба пачакаць да прыходу аграмястэчка ў 2008 годзе, калі і лазьню паправяць, што ў Дуброві багата ваннаў- іхняя колькасьць, дарэчы, яўна перабольшаная- і ёсьць прыватныя лазьні.

Таксама намякаюць, што ў вандалізацыі лазьні вінаватыя не людзі з Марсу.

Зыходзячы з подлай логікі ліста разумееш, чаму ў Шацілках німа грамадзкіх прыбіральняў у горадзе: кажная гарадзкая кватэра мае прыбіральню, таму нахер яшчэ сральні ў горадзе.

І не трэба намякаць на «маленькіх зялёных чалавечкаў» з Марсу. Імёны вінаватых у руйнаванні дуброўскай лазьні вядомыя дуброўцам: **гэтыя «марсіяне»- ўсе крэатуры шацілкаўскай старчаковай буржуазіі**.

У прыватнай гутарцы сп. Мікола Бусел казаў, што гадоў трыццаць таму кампетэнтныя органы раілі яму нікуды не пісаць пра адсутнасьць грамадзкіх лазьняў у вёсцы.

А мо каб былі спраўныя грамадзкія лазьні па вёсках- а былі ж!- камунізьм не распаўся б?

Што будзе далей з балючай ідыёцкай праблемай дуброўскай лазьні сп. Мікола не ведае. «Сілы ліха маюць падтрымку з Марсу. Ад гэтага аднекуюцца шацілкаўскія старчакі, але маленькія зялёныя вушкі з іхняга ліста тырчаць»,- кажуць дуброўцы. ***На выбарах бі па гэтых вушах!*** *Памятай: наяўнасьць грамадзкіх лазьняў і прыбіральняў значна палягчае жыццё нутраным органам.*

## СУД НЕ РОЎНА ДЗЕЛЕ.

«Чым то дзеіцца на сьвеце што не роўна дзеле Бог?» пытаў у сваім вершы наш вялікі паэт Францішак Багушэвіч. Паколькі ў Беларусі, згодна з азначэннем берасьцейскага гаўляйтэра, богам ёсьць Лука то і ягоны суд таксама дзеліць не роўна. (За блюзьнерства таго гаўляйтэра трэба было валачы на вогнішча. Чаму не пратэстуе славутая праваслаўная царква?)

От вазьміце былую начальніцу Нацыянальнага банку Тамару Віннікаву. Грошай яна накрала багата, але, патрымаўшы яе для страху трохі ў турме, Лука даў ёй магчымасьць уцячы ў Лондан, дзе яна і жыве сабе на славу.

Багата было шуму вакол намесьніцы начальніка ягонай Адміністрацыі Галіны Жураўковай. Нахапала яна мільёны даляраў. Даў ёй суд мо чатыры гады, але Жураўкова не сядзела ні дня. Бо, кажуць, дужа хворая для турмы. А начальнік ягонага тэлебачання Рыгор Рыбакоў? Гэты накраў сотні тысяч даляраў, але нечым не дагадзіў Луку і зараз, праўда, сядзіць у турме. Але калі газета «Народная воля» напісала, што Рыбакоў злодзей, то з-за кратаў Рыбакоў падаў у суд і адсудзіў ад газеты ладныя грошы за «паклёп».

Беларускія палітычныя дзеячы Мікола Статкевіч, Павел Севярынец, Андрэй Клімаў нічога не кралі. Яны папросту выступалі супраць рэжыму і за гэта атрымалі па два гады «хіміі». Міхаіл Марыніч трымаў у гаражы кампутары для сваёй арганізацыі і гэта было прызнана кражай, хоць ніхто пра тую кражу не заяўляў.

І хоць Марыніч ледзь ходзіць пасьля інсульту, для турмы- не «хіміі»!- ён яшчэ як прыдатны!

От так дзеіцца ў лукашысцкай Беларусі:хоць ты суперзлодзей, але калі «асоба, набліжаная да імператара», то на тваё зладзейства заплюснуць вочы. А як не з таго кодла, то марш за краты.

Па ўсёй Еўропе крадуць усюды і па багату. Садзяць і тамака ў турму, каму як удаецца адкруціцца. Але нідзе людзей не садзяць за палітычныя перакананні.

І тым болей нідзе ў Еўропе ўлада не памагае адкруціцца ад суду.

**Свабоду палітычным вязьням Паўлу Севярынцу Міколу Статкевічу Андрэю Клімаву Валеру Леванеўскаму!**

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ГАНДЛЮЕ РЫБАЙ.

Чым павінна займацца Адміністрацыя прэзідэнта? Венікамі і швабрамі, ацяпленнем пакояў і фарбаваннем будынку.

Але ў Беларусі пры Луку гэтае неканстытуцыйнае ўтварэнне ператварылася ў кангламерат з падазронай дзейнасьцю. Мала таго, што гэтая Адміністрацыя незаконна ўмешваецца ў дзяржаўныя справы, дык яна яшчэ і гандлёвы дом пры прэзідэнце. Купіце пакецік з лустачкамі стаўрыды і вы прачытаеце пра тое, што гэта выпушчана упраўленнем ягонымі справамі пры Адміністрацыі.(Грамаў сто каштуюць 3.600 руб. Нават адкінуўшы выдаткі можна казаць, што прыбытак ад гэтага бізнесу аграмадны ) Лука ўзначальвае гіганцкую бізнесовую карпарацыю, якая праз манаполію і ўладу прыносіць яму і ягоным казачныя суперпрыбыткі.(Адкуль у яго грошы і на «яБоінг» і на шведзкіх ды расейскіх хакеістаў ды на ўласную для забавы, хакейную каманду ды іньшыя пацешкі?)

Свой бізьнес Лука абараняе ўсімі сіламі, законнымі і незаконнымі метадамі.

Як Божы дзень ясна, што калі яго адхіляць ад пасады, то вялікіх непрыемных пытанняў яму не пазьбегнуць.

Вось чаму так шчыруе ілжывае тэлебачанне, радыё і падхвосны друк- яны абараняюць алігарха і тырана Луку і ягоны бізьнес.

"Лукашэнка вядзе нас да шчасьлівага жыцця",- радасна казала ў пасажырцы адна ўжо не першай маладосьці кабета. Гэтую палітычна сьляпую дурніцу хто толькі і куды толькі не вадзіў! Памятаеце? "Партыя к шчасьцю вядзе нас ў паход!" Прывяла, дане ж не! Цяперака, вось, новы правадыр...

Лукашэнка вядзе да шчасьця сваіх і сам ідзе.

А ты па шчасьце ідзі на сьметнік.

Рыбай, і не толькі, сьмярдзіць.

**ДВАРНЯК ДВАРНЯКУ:**

Лука заявіў, што вяртае ў БЕЛАРУСЬ камуністычныя парадкі.То бок фашызм. Зь нейкай садамазахісцкай радасьцю на зьездзе свайго БРСМ ён заявіў, што вяртае безымяннаму Берасьцейскаму тэатру імя ленінскага камсамолу.Во,блін! «Гісторыя паўтараецца як фарс.» От, мабыць, пры фарсе мы і прысутнічаем.

**ДОСЬЦЬ ГЭТАГА ПАСЬМЕШЫШЧА!**

І гэта ў той час, як у Дуброве гаруюць за 80.000 руб на месяц!

## ПРЫМУСОВЫ РАСПАЎСЮД

Ціхі маўклівы пратэст і абурэнне выклікае ў паштароў прымус распаўсюджваць за грошы- прадаваць- наклад «Советской Б.» ды іншай макулатуры рэжыму. Ніхто з жыхарства не хоча купляць тыя гебельсаўскія выданні. Чалавек з газэтаю ў рукох на вуліцы? Такога мы не бачылі.(Часьцей убачыш кабету з скруткам падцірачнай паперы. Сапраўды, вялікі ўдар па таталітарным друку нанесла гігіенічная папера.) От і мусяць паштары, каб не патрапіць у няўдзячнасьць да начальства, самі раскупляць спушчаныя зьверху асобнікі.

«Да чвэрці заробку йдзе на набыццё гэтых газет», жалілася знаёмая паштарка.

Ніхто не пратэстуе, бо лёгка страціць працу.

От так, загнаўшы працоўных у кут, рэжым іх абкрадае і рабуе.

І ўсё ж трэба пратэставаць. Трэба выходзіць на вольны друк, прыцягваць увагу людзей на гэтую абуральную зьяву.

Чым болей выпадкаў несправядлівасьці стане шырока вядомы людзям, тым болей шанцаў на папраўку.

Паштары! Вас рабуюць? Адкажыце ўдарам на ўдар: выкідайце перадвыбарчыя ўлёткі прысьпешнікаў рэжыму ў сральню, ціхенька кінье ў скрыню апазіцыйны лісток, улётку. Шапчыце сваім кліентам, як лепей галасаваць супраць рэжыму.Скажыце добрае слова пра апазіцыйных дзеячаў і кандыдатаў. Станьце людзьмі, а не халуямі сваіх працадаўцаў.

Распаўсюджвайце гнюсную праўду пра рэжым. Гэта і ёсьць форма негвалтоўнага супраціву.

Працуйце на сябе.

## НАШ АБАРОНЦА? СЬВІННЯ!

Нашыя суседзі і малодшыя браты жамойты, якія ўкралі сабе наш герб і нашу назву (Літва і ліцьвіны- гэта мы)- рашылі збудаваць каля нашай саменькай мяжы сховішча радыяактыўных рэчываў. Ну, хай бы паперлі пад Калінінградзкую вобласьць, пад Расею, дык не, пад нас, ліцьвіноў! Канешне, Лука зьмікіціў, што гэта брыдоцце і пасталіўся збудаваць на мяжы з Жамойціяй-Літвою на Нёмане сьвінюшнік на 100.000 дзюдак.Сто тысяч дзюдак гадзяць столькі ж, як і горад з 200.000 жыхароў. Калі літоўцы-жамойты нам нагадзяць, то нашы сьвінні іх закакаюць. Мы іх заплывём какаю, закідаем каўляшамі.

Шкада, што жамойты не мусульмане, а то мы іх элегантна прыкончылі б сьвінячынай.(А косткі- маскалям.)

Рашэнне сімпатычнае, але што калі вецер будзе дзьмуць да нас і што, ўрэшце, нам рабіць з такою колькасьцю нечыстот?

## ГВАЛТ У КАБУЛЬШЧЫНІ.

Жывасілам выгнаўшы з пасады сельрадаўскага старшыню сп. Доўгага Міхайлу і пацярпеўшу няўдачу з сп. Тушынскім замардаваныя рэжымам шацілкаўскія бонзы працягваюць клычыць і рыць Праз свайго райкамаўца Уладзіміра Кукара яны націснулі на сп. Маторыну Вольгу, выканаўцу абавязкаў старшыні і тая націснула на дэпутатку сп. Вялічку Тамару, каб сп. Тамара адмовілася ад дэпутацтва. Жарты з Кукарам і тымі, хто стаіць за ім паганыя- расправа з сп. Доўгім навідавоку. Таму саўгасная, ці як там у іх, бугалтарка адмовілася ад небясьпечнага дэпутацтва і на ейнае мейсца будуць праведзеныя «выбары» Толі Крывалапа, эканаміста па адукацыі і настаўніка спорту Кабульськай школы па працы.

Яго і «выберуць» начальнікам сельрады. Кажуць, што Толя не хацеў пакідаць сваю працу, бо, праўда: сёння ты марыянетка-старшыня, а заўтра- гаўняк. Фартуна! Улада не прамінае казаць, што «апазіцыя» ірвецца да ўлады. Справа якраз наадварот: у кабульськім выпадку мы бачым уладны фашызм у лабалаторна чыстым выглядзе.

**На** зьезьдзе прафсаюзаў галоўны прамоўца Лука папярэджваў прафсаюзы, каб не лезьлі ў палітыку, не абаранялі правоў чалавека. Мог бы гэтага і не казаць: прафсаюзы век пальцам не варушылі за працоўных.А цяпер з кантрактавай сістэмай яны зусім без яйцаў. Сьпі спакойна, Шура.

## ДЗЬВЕ ПАДЗЕІ НА АДНУ ДАТУ.

**8** ВЕРАСЬНЯ **1514** году нашыя беларускія войскі дашчэнту разграмілі маскалёў пад Дуброўна блізу Оршы. Нашых было ўтрая меней за маскоўцаў.Камандаваў імі князь **Канстанцін Астрожскі.** **8 верасьня**- міжнародны дзень друку.Наша прывітанне ўсім чытачом- без чытача нахрэн той друк.Тым болей паняволены

Пайшла ад нас  
добрая беларуска,  
чарнобыльская ўцякачка  
**Вінічэнка**  
Яўгенія Іванава.  
Яна любіла прэзідэнта.  
Хай ёй зямля будзе пухам.

Ці пытаў ты ў свае маладзічкі, сябра,знаёмых ці слухаюць яны радзіва «Свабода»? Сам не чуў? Дык шукай на кароткіх хвалях! Добра шукай!

Друкарня імя І. Масьціцкага  
100 асобн. Як заўсёды.